№6

# ВЯТРАК

2001 ГОД

БЮЛЕТЭНЬ ТВОРЧАГА МАЛАДЗЁЖНАГА АБ`ЯДНАННЯ

*ВЫДАЕЦЦА ТОЛЬКІ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ*

***Юны праграміст***

*Аматарам нашай рубрыкі, адразу хачу паведаміць прыемную навіну. Пачаў выходзіць дадатак да бюлетэня «ВЯТРАК», які называецца «КАМПУТАРНЫЯ ЗАБАВЫ». Яго можна замовіць напісаўшы нам у рэдакцыю.*

**Паважаныя, юныя праграмісты!** Дасылайце ў «ВЯТРАК» свае артыкулы. Самыя арыгінальныя будзем друкаваць, а іх аўтараў узнагароджваць.

***Анекдот***

Жанчына ва ўзросце пытае:

– А Вы можаце мне зрабіць старонačку ў інтэрнэце?

– За пэўны кошт.

– І ў Амерыцы яе змогуць чытаць?

– Канешне.

– А можна зрабіць так, каб усе маглі яе чытаць акрамя маіх калег па працы?

**Шаноўныя нашы чытачы!**

Як Вы ўжо бачыце, з кожным нумарам наш бюлетэнь змяняецца, дзякуй Богу, у лепшы бок. У мінулым выпуску мы пачалі рубрыку *"Юны праграміст"*, а ў гэтым – рубрыку *"Смачна есці"*. Акрамя таго, бюлетэнь змяніў свае памеры, і пачаў выходзіць на чатырох старонках.

Але з Вашай дапамогай мы можам у некалькі разоў лепш аздобіць усе наступныя выпускі "ВЕТРАКА". **Дасылайце нам у рэдакцыю свае творы, вершы, даследаванні, меркаванні і ўвогуле – сяброўскія лісты. Будзем рады ўсяму.**

***Дзякуй тым, хто дапамог "Ветраку" у выпуску гэтага нумару.***

***Хвалюючы ліст***

**Прывітанне "Вятрак"!**

Піша Вам дзяўчына Каця з Мінска.

Мне шаснаццаць гадоў і я вучуся ў дзесятым класе. Так склаўся мой лёс, што з першага па чацвёрты клас я вучылася ў эксперыментальным класе, дзе ўсе прадметы выкладаліся на беларускай мове. Але гэты "эксперымент" закончыўся для мяне ў чацвёртым класе, бо бацькі перавялі мяне ў рускамоўны. Але і майму сапраўднаму класу тады засталося існаваць не доўга, праз тры гады яго расфарміравалі. Так, як я нарадзілася ў рускамоўнай сям'і, нават мае бацькі не вывучалі беларускую мову, і я не маю сяброў, якія б размаўлялі на нашай роднай мове, і таму я размаўляю на ёй толькі на адпаведных уроках.

Часта ўзгадваю словы Францішка Багушэвіча *"Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, а потым і зусім замёрлі"*. Наш народ ідзе па тым шляху пра які піша Багушэвіч. Наш народ губляе сваю мову, а значыць і самога сябе, як нацыю. Але гэтага амаль ніхто не разумее. Вось я пішу Вам, каб, па-першае, знайсці аднадумцаў, па-другое, перапісвацца з Вамі на беларускай мове.

Калі хто жадае, пішыце мне па адрасе:

**г.Мінск – 86, а/с 129, Каці.**

З задавальненнем адкажу на Вашы лісты.

## Любоў да маці
### *Крысціна БАРЫСАВА*

Для любога з нас дзіцяці, падлетка, юнака, пасівелага дарослага – маці – самы родны, самы дарагі чалавек на свеце, які даў нам самае каштоўнае – жыццё. Самаахвяраванне, самазабыццё – менавіта гэтыя словы дакладней за ўсіх характарызуюць матчыну любоў.

Любоў маці да дзяцей абсалютна бескарыслівая. В.Бялінскі пісаў: "Няма нічога больш святога і бескарыслівага, чым любоў маці, усякае гарачае пачуццё або слабое, або своекарысліваe ў параўнанні з ёю". Яна заўсёды гатова дапамагчы, падтрымаць, суцешыць, яна прымае сваё дзіця, такім, якое яно ёсць. Не выпадковы выраз: "Маці носіць дзіця дзевяць месяцаў пад сэрцам і ўсё жыццё ў сваім сэрцы".

**Вось цяпер, цяпер я толькі зразумеў**
**Маці – кароткае вяселле на зямлі!**

Сутнасць матчынай любові ў тым і заключаецца, каб клапаціцца аб росце дзіцяці, а гэта значыць – жадае адчужэння яго ад сяброў. Маці павінна не проста перанесці, але і жадаць адчужэння дзіцяці, садзейнічаць гэтаму.

Пачуццё да маці закладаецца самой прыродай і жыве ў чалавеку да канца яго дзён. Гэта пачуццё часам адступае ў цень, але аднойчы яно ўсё роўна прарвецца нясцерпным душэўным болем. Раней ці пазней пачуццё сіроцтва, жаданне адчуць цеплыню маці авалодае чалавекам.

Маці прысвячае сябе дзецям, і дзеці павінны адказваць ёй любоўю, увагай, клапотамі. Гэта агульначалавечая норма, і за адступленне ад яе даводзіцца надта дорага плаціць.



***Анекдот***

Маленькі хлопчык выходзіць з кухні ў кепскім настроі.

- Што здарылася, сынок!? - пытаецца бацька.

Сёрбаючы носам сын адказаў:

- У мяне толькі што была сварка з тваёй жонкай!!!

**Юныя філатэлісты!**
**Рэдакцыя «ВЕТРАКА» мае магчымасць падараваць Вам у калекцыю маркі Беларусі розных гадоў. Чакаем Вашых лістоў з замовамі.**

---

## Сучасная гісторыя Менску

Раней у Менску не было многіх раёнаў. Горад размяшчаўся на месцы сучаснага "цэнтра". Не было й раёна Курасоўшчына, а замест яго знаходзілася вёска, на ўзвышшы якой стаяла сядзіба, акружаная прыгожым паркам, пана Курасава.

Зараз мясцовыя жыхары клічуць панскі дом "белай дачай", таму што вакол дома растуць векавыя дубы, маленькі садок, і размешчаны невялікі, затое вельмі прыгожы раўчук.

Але цяпер панскі дом ператварыўся ў невядома што. Тут заўсёды праводзяцца гулянкі ў гонар дня Перамогі. Кожны куст ператвараецца ў ложак якога-небудзь п'яніцы. Не так даўно ў доме павыбівалі шкло, разбілі прыступкі. Ды нават раўчук ператвары́ўся ў забруджанае возера прадпрыемства "Інтэграм", а каля самой "Белай дачы" грыміць чыгунка.

Цікава падумаць: "А што было б, калі б з "таго свету" вярнуўся пан Курасаў?"

**.КацярынаСЫРАМАЛОТ**

***Літаратурная спадчына***

## Быў змагаром і паэтам

У 20 - 30-ыя гады ў Заходняй Беларусі вялася масавая барацьба за годнасць беларусаў, за беларускую школу і зямлю. Справа ў тым, што ў той час частка нашай тэрыторыі была пад уладаю Польшчы. А палякі не дужа рупіліся рабіць дабро беларусам.

Прыкладам мужнасці быў юны падпольшчык з вёскі Юхнавічы, што на Слонімшчыне, Леанід Бялькевіч. У семнаццаць гадоў ён актыўна ўключыўся ў барацьбу за беларускую школу і мову. Разам з аднагодкамі Леанід распаўсюджваў лістоўкі, даваў адпор зборшчыкам падаткаў, агітаваў сялян Слонімшчыны, каб дамагаліся адкрыцця беларускіх школ.

Улады доўга сачылі за Леанідам Бялькевічам і нарэшце яго арыштавалі ў 1928 годзе. Юнага змагара катавалі ў мзжэвіцкім пастарунку паліцыі і ў слонімскай дэфензіве. Пасля таго, як Леанід захварэў на сухоты, турэмшчыкі датэрмінова выкінулі яго з турмы, каб не памёр за кратамі.

Леанід вярнуўся ў родную вёску, але сухоты даваліся ў знакі. З кожным днём юнак слабеў, і 16 сакавіка 1931 года яго не стала.

Леанід Бялькевіч любіў свой народ, яго літаратуру, зачытваўся творамі Купалы і Коласа, якія надхнялі на барацьбу за чалавечыя правы, сам пісаў вершы. Каб схаваць сваё сапраўднае прозвішча ад паліцыі, вершы падпісваў псеўданімам – Леанід Клён.

Чытачам «ВЕТРАКА» прапаную вершы нашага земляка, якія ўжо даўно захоўваюцца ў маім хатнім архіве.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Развітанне

Усе лепшыя думкі і мары  
Я ў сшытак пасеяць хацеў.  
Думаю ў творчым загары  
Усё ахапіць летуцеў.  
Ды мала мне часу і сілы  
Удзяліла ў змаганні жыццё.  
У палёце апошні раз крылы  
Свае я яшча распасцёр.  
Не скажа ніхто, што я здрадзіў,  
У бітве пакінуў сяброў.  
Я гасну, як сонца ў садзе,  
Як промні распырскваю кроў.



### Мы чакаем лепшых дзён

*Неба бровы свае хмурыць,  
Рассцілаецца імгла,  
Адным словам, дзень  
пануры,  
Нібы восень залягла.*

*Жыць без сонейка не міла,  
Нібы цісне цяжкі сон,  
Жыццё зблiжана з магілай –  
Мы ж чакаем лепшых дзён.*

*І таму ў душы надзея  
Узнялася, узрасла.  
Чую: дух мой маладзее,  
Хачу ветру просьбу слаць.*

*Падзьмі ветрыку з дубровы  
Нам – пакутнікам зямлі,  
Памажы сарваць аковы,  
Каб свабодна зажылі.*

1929г.

**Шаноўныя нашыя сябры!**

Калі Вы пішаце вершы, апавяданні ці казкі, добра малюеце або пішаце артыкулы ў газеты і часопісы, то просім Вас дасылаць нам свае лісты з творамі. Разам мы будзем ствараць бюлетэнь і праводзіць мерапрыемствы і конкурсы для моладзі.

**Сябры! Сёння мы друкуем чарговую віктарыну, але яна будзе адрозніваццa ад усіх папярэдніх сваёй тэмай – біялогія. Адказы на яе дасылайце да першага лістапада 2001 года. Пераможцы будуць ўзнагароджаны.**

## ВІКТАРЫНА

1. У якіх выпадках рукі за спіной чалавеку звязваць не толькі можна, але і проста неабходна?
2. Аб якой жывёле кажуць, што ў яго галава кошкі, а тулава – сабакі.
3. У Індыі гэта кветка лічыцца сімвалам чысціні, так як, вырастаючы з гразі, яна ніколі не бывае бруднай.
4. Маракі называлі гэтых жывёл русалкамі, ці сірэнамі, а як іх называем мы?
5. Самец якой птушкі замуроўвае самку ў гняздзе пры выседжванні птушанят?
6. Якая пеўчая птушка – драпежнік.
7. Як называецца самая вялікая (да 475 см) і самая ядавітая змяя?
8. Хто пасля смерці застаецца чырвоны?
9. Прысмыкаючае, якое жыве да 200 год.
10. Што азначае слова – "інфузорыя"?

***Склала – Бірук Таццяна Уладзіміраўна, настаўніца біялогіі***

---

***Смачна есці!***

**Шарлотка**

***Трэба:***

1 шклянка цукру, 1 шклянка мукі, 3 яйкі і самае галоўнае, 3-4 яблыкі.

***Рабіць:***

Яйкі з цукрам добра перамяшайце міксерам, а затым дадайце муку. Нарэжце яблыкі тонкімі долькамі, якімі пасыпце дно, папярэдне змазанае маслам і манкай, глыбокай патэльні. Наверх заліце ўсё змесіва і накрыйце накрыўкай. Гатуйце на невялікім агенчыку.

**Вядучая рубрыкі Кацярына СЫРАМАЛОТ**

**P.S. Сябры! Калі Вы ведаеце якія-небудзь рэцэпты, то дасылайце нам. Без увагі не застанецца не адзін.**

***

*Дзядуля расказвае ўнуку казку. Той просіць:*

*- Дзядуля, гэтую казку я чуў, раскажы другую, сучасную.*

*- Ну, слухай. На балу прынцэса была вельмі прыгожая,*
*у міні-юбцы, ды яшчэ з разрэзам...*

*- Працягвай, працягвай, дзядуля, дзверы ў бабулін пакой я зачыніў!*

***

*Нішчы стукаецца ў хату:*

*- Падайце што-небудзь з ежы і адзення.*

*- З ядою тугавата, - кажа гаспадыня, - а вось магу*
*аддаць Вам штаны мужа, яны амаль новыя, толькі трэба*
*гузікі прышыць... На паўгадзіны працы, не болей!*

*- Дзякуй. Тады я праз паўгадзіны забягу.*

***

*Бацюшка пытае ў Вовачкі:*

*- Ты молішся перад ядой?*

*- Не, мая мама добра гатуе.*

***

**Галоўны рэдактар – Шэлестаў Алег**

**"ВяТрАк" – бюлетэнь творчага маладзёжнага аб'яднання на Слонімшчыне**

Наш адрас: 231825, п/а Новадзевяткавічы, вёска Мірная, Слонімскі р-н, Гродзенская вобласць, Алегу Шэлеставу. Кантактныя тэлефоны: (01562) 9 - 11 - 04 (кіраўнік аб'яднання – Алег Шэлестаў), (017) 277-57-75 (намеснік – Сырамалот Кацярына). Выдаецца на правах унутранай дакументацыі. Наклад 100 асобнікаў.

**Нумар падрыхтаваны і звёрстаны на настольным абсталяванні ТМА "Вятрак"**